# Народны Звон

Г… …альная часопісь. Орган „Цэнтрасаюзу“.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Вострабрамская 9, кв. 22

Прыймо інтэрэсантаў ад 10 да 2 гадз. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

Падпіска з дастаўкай да хаты: на 1 год—6 зл., за паўгоду—3 зл., за 3 мес. — 2 зл., за 1 мес.—50 гр.

Г… Вільня, 23 сьнежня 1930 г. №. 7


## Ад Выдавецтва.

Цэнтрасаюз, выступаючы на выбарную акцыю, учыніў гэты крок чыста палітычнага характару дзеля таго, што ад часу разгрому Грамады беларусы пад Польшчай аказаліся пазбаўленымі свайго кіраўнічага палітычнага цэнтру, ля якога маглі-бы аб'яднацца ў часе выбараў. Дзеля абслугоўваньня гэтае акцыі Цэнтрасаюз быў прымушаны распачаць выдаваньне палітычнага органу, якім і зьяўляецца наш „Народны Звон“. Аднак, Цэнтрасаюз разумеў, што сталая палітычная праца ня ёсьць яго галоўнай задачай, тым балей, што друк палітычнай газэты забіраў львіную долю тых невялічкіх грошы, якія мае наша арганізацыя і якія мусяць іесьці перад усім на працу культурна-асьветную і гаспадарчую. І Цэнтрасаюз, спадзяючыся на памысны вынік выбараў, праектаваў аддаць свой орган беларускім паслом, каторыя і павялі-бы палітычную працу ў мысьль дадзенага Цэнтрасаюзам наказу.

Вынік выбараў, дзякуючы тым абставінам, у якіх яны адбываліся, ня зьдзейсьніў нашых спадзяваньняў. Паслоў сваіх мы ў гэтым Сойме й Сэнаце ня маем зусім. Дык і мэркаваньні нашы аказаліся разьбітымі: мы ізноў асталіся без палітычнага кіраўніцтва.

Зусім натуральна, што „Цэнтрасаюз“, як аб'яднаньне культурна-прасьветных і гаспадарчых арганізацыяў, і ўстаноў, ня можа замяніць сабой пасольскі клюб ці палітычную партыю, бо ў склад яго ўваходзяць прадстаўнікі розных палітычных кірункаў, і прыйшлі яны да нас не дзеля палітычных кірункаў, а прыйшлі яны да нас дзеля творчае культурна-прасьветнае і гаспадарчае працы. Вось чаму, закончыўшы выбарную акцыю, на якую Цэнтрасаюз атрымаў мандат ад агульнага зьезду сваіх сяброў і дзеля якое мы выдавалі „Народны Звон“, мы прымушаны спыніць гэтае выдавецтва, якое, як ужо адзначана, непасільна для нас і з матэрыяльнага боку. Захоўваючы надалей свой гаспадарчы орган „Саху“ і разумеючы, што вёска нязвычайна цікавіцца палітычным жыцьцём, мы ўводзім ад пачатку 1931 году аддзел палітычнае хронікі ў „Сасе“ і будзем пасылаць апошнюю ўсім нашым падпішчыкам, якія прыслалі грошы на „Народны Звон“.

З свайго боку, разумеючы, што грамадзянства ня можа жыць без палітычнага органу, мы зварачаемся да нашых палітычных дзеячоў, якія стаяць на груньце нашага выбарнага „Наказу“, з гарачым заклікам: напружыць усе свае сілы і стварыць палітычную газэту, якая паказвала-бы правільны шлях нашай абаламучанай, здэзорыентованай вёсцы. І мы верым, што грамадзянства нашае адгукнецца на гэты заклік і здолее стварыць орган, якога мы вясьці ня можам.

## Лектары для правінцыі.

Маючы на мэце аказваць помач усім грамадзкім пачынаньням у галіне культурна-прасьветнае і гаспадарчае працы, Цэнтрасаюз можа выпаўніць свае заданьне пастольку, паскольку на мясцох — па вёсках і мястэчках — грамадзяне самі выявяць ініцыятыву і ахвоту да стварэньня бібліатэкі-чытальні, коопэратывы, школы ды інш. Ува ўсіх гэткіх выпадках зварачайцеся да Цэнтрасаюзу і атрымаеце раду, інструкцыю і пасільную дапамогу.

Ад пачатку 1931 году Цэнтрасаюз мяніцца наладзіць разьезды лектароў на правінцыю. Але ізноў-жа пасылаць іх будзе толькі туды, скуль будзе прыслана запатрабаваньне і дзе мяйсцовыя сілы самі возьмуцца за падгатаваньне лекцыі. Справа лекцыяў на правінцыі зьяўляецца чарговай задачай Цэнтрасаюзу — сьледам за ўладжанымі ўжо над яго кіраўніцтвам завочнымі курсамі коопэрацыі Беларускага Студэнскага Саюзу.

Прысылайце запатрабаваньне на лектароў загадзя, адзначаючы, якой галінай цікавіцеся, каб Цэнтрасаюз меў магчымасьць плянова разьмяркаваць лектарскія сілы.

**Прачытаўшы газэту — перадай другому.**

# Пратэст Цэнтрасаюзу

## проці гвалту над беларускімі культурнымі працаўнікамі у БССР.

Маскоўская камуністычная ўлада учыніла ў Беларускай Савецкай Рэспубліцы поўны разгром беларускіх культурных сіл.

Арыштаваны і аддадзены пад суд за „контр-рэвалюцыйнасьць“ блізу ўсе беларусы—сябры Беларускае Акадэміі Навук, рэктар Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту Пічэта і цэлы рад прэфэсараў-беларусаў (Лёсік, Смоліч, Краскоўскі і інш.), дзесяткі вучыцеляў беларускіх школ, рад выдатных работнікаў на выдавецкай ніве, пісьменьнікаў і паэтаў, а так-жа былых сяброў ураду Радавае Беларусі, у тым ліку—многа нават сяброў камуністычнае партыі, якія сваей дзейнасьцяй сьцьвярдзілі сваё жаданьне тварыць беларускую нацыянальную культуру і ахоўваць індывідуальнасьць беларускага народу.

Каб апраўдаць гэты паход проці ўсяго беларускага, камуністычная ўлада надае арыштаваным цэлы рад нябылых „праступкаў“, у тым ліку — нібыто істнаваўшыя зносіны іх з замежнымі беларускімі дзеячамі роўна беспадстаўна абвінавачанымі загадзя, ў „фашызме“, „падгатоўцы вайны з СССР“ і г. п. Аслаўленае Г. П. У., па загаду з Масквы, пашырае сярод працоўных масаў усю гэтую ілжу і загадвае рабочым і ўсялякім культурна-асьветным асоцыяцыям прымаць рэзалюцыі з асуджэньнем заарыштаваных — перш чым іх нават пасьпела асудзіць савецкая „юстыцыя“. Стэрорызаваныя масы і пакіненыя яшчэ на волі недабіткі спасярод беларускіх культурных дзеячоў прымушаюцца падпісываць заявы з трэбаваньнем для заарыштаваных найвышэйшае кары — кары сьмерці. І гэта паказывае, што маскоўская камуністычная ўлада пастанавіла ня спыніцца перад крывавай расправай з ненавістнымі Маскве тварцамі беларускае культуры.

Беларуская культурна-асьветныя і гаспадарчыя арганізацыі Заходняе Беларусі, аб'яднаныя ў Цэнтрасаюзе, перад аблічам усяго культурнага сьвету пратэстуюць проці бясприкладнага гвалту „чырвонага“ маскоўскага нацыяналізму над паняволеным Масквой беларускім народам і яго культурай. Мы сьцьвярджаем, што ў працягу некалькіх апошніх гадоў камуністычная расейская прэса вяла газэтную падгатоўку паходу маскоўскіх сатрапаў процiў беларусаў і з гэтай мэтай сеяла ўсялякую брахню аб беларускіх дзеячох з абодвух часьцін падзеленай рыжскім мірам Беларусі, стараючыся адначасна даказаць няістнуючую сувязь паміж імі. Мы сьцьвярджаем, што ніякіх зносін — навет чыста асабістых — беларускія дзеячы з Радавае Беларусі з дзеячамі Заходняе Беларусі ня мелі, бо бальшавіцкі тэрор зрабіў такія зносіны немагчымымі. Мы сьцьвярджаем урэшце, што і ў Заходняй Беларусі камуністычная партыя, па загаду з Масквы, павяла шырокую акцыю „узрываньня“ беларускіх культурных установаў шляхам кампрамітаваньня і правакаваньня іх перад польскімі ўладамі. І мы рашуча заяўляем, што рыхтаваная ў Менску крывавая лазьня беларускім культурна-прасьветным працаўніком зьяўляецца выяўленьнем нацыянальнае ненавісьці „чырвонае“ Масквы да народу беларускага за выяўленае беларускімі сялянскімі і работніцкімі масамі і беларускай народнай інтэлігенцыяй жаданьне жыць самастойным культурна-нацыянальным жыцьцём і за выкананую імі вялізарную творчую працу, увёўшую наш народ у сусьветную сям'ю культурных нацыяў.

**Цэнтральны Саюз Беларускіх Культурна-Асьветных і Гаспадарчых Арганізацыяў і Устаноў.**

Вільня, 16 сьнежня 1930 г.

## Да арыштаў беларусоў у Менску.

У апошнім нумары свaей газэты мы ўжо падалі пра арышты беларускіх дзеячоў у Менску.

Як відаць з газэтных вестак, арыштавана ўсё тое, што імкнулася да адраджэньня беларускага народу і стварэньня беларускай культуры.

Гэтыя арышты ў вачавідны спосаб паказваюць беларускаму народу, чаго ён можа спадзявацца ад сучасных валадароў яго бацькаўшчыны.

Беларуская культура і ідэя беларускага нацыянальнага адраджэньня, як відаць, былі патрэбны маскоўскай камуністычнай уладзе толькі як шырма, за якою яна магла-б вясьці сваю шкодную для беларускага народу працу.

Гэтыя рэчы для нас, што праўда, былі зразумелымі ўжо даўно. Апошнія арышты павінны расчыніць вочы нават і тым, хто яшчэ верыў да гэтага часу ў добрыя намеры маскоўскае камуністычнае ўлады да справы адраджэнскага беларускага руху.

Маскоўскія камуністы цкуюць цяпер „масы“ процiў беларускай „контр-рэвалюцыі і здрады“, дамагаючыся кары сьмерці для тых людзей, віна якіх палягае толькі на тым, што яны зьяўляюцца беларусамі і вернымі сынамі сваёй бацькаўшчыны.

Камуністы, якія пацярпелі паражэньне на ўсіх фронтах свайго „сацыялістычнага“ будаўніцтва, — якія давялі абурэньне сялянскіх масаў да крайніх межаў — хочуць адвярнуць цяпер увагу гэтых масаў, ад запраўдных віноўнікаў той сацыяльна-эканамічнай разрухі, якую іх партыя ўвяла ў грамадзкае жыцьцё.

З гэтаю мэтаю яны шукаюць „віноўнікаў“ сярод інтэлігенцыі — інжынераў і тэхнікаў, у выніку чаго творацца сумбурныя працэсы з крывавымі экзэкуцыямі.

Як у колішнім Рыме, так і ў Савецкіх „рэспубліках“ — галодны і абодраны народ няўпынна крычыць: „хлеба і ігры“ і яму іх даюць, але даюць ігры куды больш, чым хлеба.

× **Хваробы ў Вільні.** Дзякуючы вельмі дрэнnаму надвор'ю, якое наглядаецца ў Вільні—колькасьць хворых павялічваецца.

Асабліва пашыраецца г. зв. грыпа, на якую хварэець тут больш 15.000 чалавек.

Сярод вучняў Віленскай Бел. гімназіі гэтая хвароба палажыла ў ложка 23 чал., якія знаходзяцца ў гімназіяльным шпіталі.

## Пісьмо у Рэдакцыю.

*Паважаны Грамадзянін Рэдактар!*

Не адмоўце, калі ласка, зьмясьціць у паважанай Вашай часопісі „Народны Звон“ наступнае:

У „Życiu Nowogródzkiem“ № 287 (1001) ад 30 лістападу 1930 г. была надрукавана карэспандэнцыя пад назовам „Komuna wsród nauczycielów i uczniów gimnazjum białaruskiego w Klecku“, у якой гаворыцца аб вобысках, зробленых у некалькіх вучняў, вучыцеля грамадзяніна Якубёнка Грыгора і, што гэтыя вобыскі зусім пацьвердзілі падазрэньне, даючы шэрэг дакумэнтаў, карэспандэнцыяў і камуністычную бібулу, сьцьвярджаючых удзел успомненых вышэй асоб у камуністычным руху; далей гаворыцца, што, у выніку таго, вучням забаронена адведваць гімназію.

Вось-жа, гэтым сьцвярджаю:

1) што ані ў грамадзяніна Якубёнка ані ў вучняў пры рэвізіі ня знойдзены ніякія дакумэнты і камуністычная бібула, даказваючы іх учасьце ў камуністычным руху; былі затрыманы толькі кнігі Менскага і Пражскага выданьня, зусім легальныя, бо купленыя ў кнігарнях у Вільні ды карэспандэнцыя, нічога нямаючая супольнага з камуністычнаю працаю.

2. Хоць доказаў сувязі з камуністычнай працай ня было знойдзена, усё-ж такі грамадзянін Якубёнак і 12 вучняў былі арыштаваны, але праз пару дзён былі звольнены.

3) Ніхто з вучняў ня быў пазбаўлены права адведваць гімназію.

Дырэктар Клецкай Беларускай Гімназіі
**А. Макарэвіч.**

Вільня, 6.XII. 1930 г.

## З жыцьця у Канадзе.

Шмат беларусаў і украінцаў, якія выехалі ў Канаду даюць парады тым сялянам, якія-б хацелі туды выехаць.

Перадусім, як кажуць дасьведчаныя людзі, ня трэба сьпяшацца з пакупкаю фэрмы; бо гэтага дабра ў Канадзе даволі.

Эмігранта, які толькі што прыехаў, абсядаюць як саранча агенты розных кампаніяў, якія маюць зямлю на прадаж, заманьваюць людзей і ўпіхваюць яму за добрыя грошы якія небудзь камяністыя ці балотныя вучасткі. Той, хто прыяжджае ў Канаду, мусіць асьцярагацца перадусім гэтых агентаў.

Усякі земляроб можа набыць зямлю ад дзяржаўных урадаў, якія даюць зямельныя надзелы на 160 акраў (каля 100 маргоў) г. зв. гамштэды. За такі надзел плаціцца толькі 10 даляраў і як толькі эмігрант на ім загаспадаруець нават частковa, то ўся зямля пераходзіць на яго ўласнасьць,

Радзяць такія надзелы браць толькі ў правінцыі Манітаба, Сасхачэвані і Альбэрта, якія зьяўляюцца найбольш ураджайнымі.

Браць зямлю ў іншых правінцыях не аплаціцца.

Як пішуць эмігранты, жыцьцё ў Канадзе ня лёгкае і многія, якім не ўдалося ўстроіцца, хацелі-б вярнуцца на бацькаўшчыну.

Жывуць там хутарамі, фэрма ад фэрмы знаходзіцца на адлегласьці 1-2 кілёмэтраў, дзеля чаго грамадзкае жыцьцё разьзвіта даволі слаба.

## Паштовая скрынка.

**Гр. Андрэю Магільніцкаму.** 1) Беларускія гімназіі існуюць у Вільні, Наваградку і Клецку. Паступіць у гімназію можаце, толькі, на жаль, Вы ня пішаце колькі маеце гадоў. Найлепш было-б, каб Вы зьвярнуліся беспасярэдна ў Віленскую гімназію.

2) Калі-б Вы аказалі добрыя вынікі ў навуках, то маглі-б разьлічаць на стыпэндыю.

3) У сучасны мамэнт існуюць у Вільні карэспандэнцыйныя коопэрацыйныя курсы, арганізаваныя Бел. Студ. Саюзам. Зьвярнецеся да іх па адрэсу—Вільня, Віленская вул., д. № 8 Студэнскі Саюз. Курсы знаходзяцца пад агульным кіраўніцтвам Бел. Цэнтрасаюзу.

## Усячына.

### Ангельскія машыны сьмерці.

Падчас пабыту дэлегатаў доменіяў у Лёндане — ангельскае ваеннае міністэрства паказала ім г. зв. „змэханізаваную армію“, ці тыя аддзелы, ў якіх уведзена на мейсца жаўнераў — асобыя машыны, якімі можна кіраваць пры помачы радыёвых фаляў на пэўнае адлегласьці.

Былі паказаны „машыны сьмерці“, якія безумоўна адыграюць у будучай вайне рашучую ролю.

Усе вайсковыя дзеяньні адбываліся пры помачы танкаў, бранявых самаходаў, лёталі аэрапляны, але нігдзе ня было жывых людзей і ўсім гэтым кіраваў толькі адзін чалавек, які сядзеў у бэтановым укрыцьці. Усё гэта рушылася ў належных кірунках пры помачы радыётэхнічнай інсталяцыі, заступіўшай беспасярэдняе камандаваньне.

Манэўры гэтыя паказалі, што для такой „арміі“ няма ніякіх перашкодаў. Аддзел танкаў амаль без усякіх высілкаў прашоў праз густы лес, ламаючы дрэвы. Аэрапляны, на якіх ня было людзей, лёталі над пэўнымі мейсцамі і кідалі бомбы туды, куды было трэба.

Асабліва вялікае ўражэньне зрабіла на прысутных атака цэлага аддзелу танкаў, кіраваных праз асобныя мэханізмы, якія кшталтам напамінаюць чалавека і завуцца „роботамі“. Цікава і тое, што каманда для гэтай арміі перасылалася з адлегласьці ў 150 кілямэтраў.

Як асьведчыў ангельскі ваенны міністр — Англія маець яшчэ ў запасе і такія тэхнічныя вынаходы, якія могуць зусім зьнішчыць непрыяцельскую армію і проці якіх яна акажацца зусім бясьсільнаю.

### Якая будзе зіма ў гэтым годзе?

Як прадбачуць дасьледчыкі пагоды — зіма, у гэтым годзе, будзе даўжэйшая і горшая, чым у мінулым.

Тлумачаць гэта тым, што птушкі выляцелі ў цёплыя краі раней, чым заўсёды.

Усе зьверы, якія зімуюць у нас, хаваюцца глыбока у зямлю, сабраўшы вялікія запасы ежы, ацяпляюць свае гнёзды і г. п.







Адказны Рэдактар: **К. Крук.** Друкарня Я. ЛЕВІНА Вільня, Нямецкая 22. Выдавец: **„Беларускі Цэнтрасаюз“.**